*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №2 (490) 10 СТУДЗЕНЯ 2001 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на першы квартал 2001 года. У гэтым квартале падпіска, хоць і нязначна, але зменшылася. Падпісная інтэрвенцыя ТБМ прынесла нязначныя вынікі. Найгоршая сітуацыя ў Магілёўскай вобласці, дзе ў 10 раёнах ні адзін чалавек не выпісвае газету. Відочна, што ў гэтых раёнах вельмі праблематычна гаварыць і пра арганізацыі ТБМ. Няўжо ў колісь самай беларускай губерні не засталося беларусаў.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 30 | 15 |
| Бяроза р.в. | 12 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 2 |
| Бярэсце гор. | 20 | 43 |
| Ганцавічы р.в. | - | 1 |
| Драгічын р.в. | 2 | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | - |
| Іванава р.в. | 3 | 2 |
| Івацэвічы р.в. | 2 | - |
| Камянец р.в. | 25 | 26 |
| Кобрын гор. | 12 | 15 |
| Лунінец гор. | 4 | 5 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 2 | 1 |
| Пінск гор. | 34 | 26 |
| Пружаны р.в. | 6 | 6 |
| Столін р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго:** | **157** | **157** |
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 2 | 2 |
| Віцебск гор. | 23 | 28 |
| Віцебск РВПС | 1 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в | 8 | 2 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 4 |
| Гарадок р.в. | 3 | 2 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 1 |
| Дуброўня р.в. | 3 | 1 |
| Круляўшчызна | 2 | 2 |
| Ліёзна р.в. | 4 | 3 |
| Лепель р.в. | 1 | - |
| Міёры р.в. | 6 | 18 |
| Наваполацк гор. | 13 | 34 |
| Ворша гор. | 10 | 9 |
| Полацк гор. | 88 | 43 |
| Паставы р.в. | 6 | 6 |
| Расоны р.в. | 1 | - |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 4 | 2 |
| Ушачы р.в. | 1 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 9 | 10 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 3 |
| **Усяго:** | **199** | **180** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 11 | 10 |
| Вілейка гор. | 1 | 2 |
| Валожын гор. | 11 | 10 |
| Дзяржынск р.в. | 4 | 1 |
| Жодзіна гор. | 11 | 7 |
| Клецк р.в. | 3 | 3 |
| Крупкі р.в. | 1 | - |
| Капыль р.в. | 2 | 3 |
| Лагойск р.в. | 3 | 3 |
| Любань р.в. | 5 | 4 |
| Менск гор. | 455 | 441 |
| Менск РВПС | 13 | 12 |
| Маладэчна гор. | 21 | 18 |
| Мядзель | 22 | 15 |
| Пухавічы РВПС | 16 | 14 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 4 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 3 |
| Слуцк гор. | 8 | 11 |
| Салігорск гор. | 12 | 9 |
| Ст.Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 5 |
| Узда р.в. | - | 1 |
| Чэрвень р.в. | 5 | 8 |
| Фаніпаль | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **621** | **586** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 1 | 2 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 2 | 1 |
| Гомель гор. | 47 | 45 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 3 | 2 |
| Ельск р.в. | - | - |
| Жыткавічы р.в. | 39 | 41 |
| Жлобін гор. | 5 | 5 |
| Калінкавічы гор. | 1 | - |
| Карма р.в. | 2 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 23 |
| Лоеў р.в. | 1 | - |
| Мазыр гор. | 7 | 7 |
| Акцябарскі р.в. | 7 | 2 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | 3 | 2 |
| Рэчыца гор. | 2 | 3 |
| Рагачоў гор. | 1 | 2 |
| Светлагорск гор. | 4 | 5 |
| Хойнікі р.в. | 1 | - |
| Чачэрск р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **132** | **144** |
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 3 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 13 | 16 |
| Воранава р.в. | 5 | 1 |
| Горадня гор. | 119 | 111 |
| Горадня РВПС | 29 | 33 |
| Дзятлава р.в. | 8 | 7 |
| Зэльва р.в. | 5 | 27 |
| Іўе р.в. | 3 | - |
| Карэлічы р.в. | 5 | 2 |
| Масты р.в. | 7 | 9 |
| Навагрудак гор. | 8 | 12 |
| Астравец р.в. | 5 | 3 |
| Ашмяны р.в. | 12 | 13 |
| Смаргонь гор. | 9 | 8 |
| Слонім гор. | 9 | 21 |
| Свіслач р.в. | 4 | 3 |
| Шчучын р.в. | 3 | 2 |
| Ліда | 30 | 25 |
| **Усяго:** | **280** | **295** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 26 | 6 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | 2 | 2 |
| Быхаў р.в. | 2 | 2 |
| Глуск р.в. | - | - |
| Горкі гор. | 12 | 25 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 1 | - |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Краскаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў | 1 | - |
| Клімавічы р.в. | 4 | 6 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Круглае р.в. | 5 | 4 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | - |
| Магілёў гор. | 20 | 22 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 12 | 12 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 3 | 3 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 4 | 6 |
| **Усяго:** | **100** | **91** |
| **Усяго па краіне** | **1489** | **1453** |

## Думкі і прапановы Генадзя Цыхуна ў сувязі з выпрацоўкай стратэгіі развіцця беларускай мовы

1. Мяркую, што канцовы дакумент, які можа быць прыняты ТБМ ці прапанаваны для падпісання іншымі арганізацыямі і асобамі (кампетэнтнымі) павінен мець назву **"Дэкларацыя аб беларускай мове"** (па тыпу дэкларацыі аб харвацкай мове, слова пра сербскую мову і інш.).

2. У дэкларацыі павінна быць асветлена канцэпцыя развіцця беларускай мовы, якая ўключала б кароткую гісторыю, сучасны стан і перспектывы развіцця.

3. Гісторыя павінна змяшчаць "вузлавыя" паняцці бел.мовы – глотагенез (тут заняць ясную пазіцыю адносна супольнай калыскі і г.д.), гістарычныя "павароты" (рэальна, без "рамантычнага флёру"), існуючы стан (жорстка, па-навуковаму, але без ляманту і плачу) і перспектывы (для якіх уласна і патрэбна распрацоўка стратэгіі).

4. Важнейшы момант – аддзяленне лёсу беларускай мовы ад палітыкі, бо мова каштоўнасць вышэйшага рангу (доўгатэрміновая! гл. файную фразу пра гэта ў аўт. Сафронія Жлобы у беласт. зборніку).

5. Аддзяленне лёсу бел.мовы ад дзяржаўнасці. Зноў жа па той жа прычыне (гл.маё выказванні і разважанні Мячкоўскай у зб. "Беларуская мова ў канцы XX ст.")

**20.XI.2000 г.**

## Меркаванні Генадзя Бураўкіна да выпрацоўкі стратэгіі беларускай мовы

Ідэю рашуча падтрымліваю, як своечасовую. У дакуменце не павінна быць заклікаў, а павінны быць канкрэтныя дзеянні. Бачу два кірункі:

1. Сістэма адукацыі.

2. Увядзенне мовы ў ранг дзяржаўнай у дзейнасці дзяржаўных інстытутаў.

Трэба рэзка біць трывогу.

У сувязі з перабудовай на ТБ цяпер там знішчаецца ўсё беларускае. Выкінуты, ннапрыклад, усе навучальныя праграмы, якія былі па-беларуску. Ідзе татальнае вынішчэнне мовы. Такога адкрытага раней ніколі не было. Радыё ўсё больш пераходзіць на рускую мову, Адкрылася сесія новаабранай палаты – дык там нават для праформы не было беларускай мовы. Выцясненне адбываецца "окончательно и безповоротно".

Яшчэ больш год за годам скарачаецца колькасць друкаваных выданняў.

Т. ч. трэба біць трывогу і стратэгію выпрацоўваць, як найхутчэй.

**21 ліст. 2000 г., у пераказе Сяргея Запрудскага.**

## Сустрэча ў Пінску

3 студзеня Старшыня ТБМ Алег Трусаў наведаў Пінск, дзе адбылася сустрэча з кіраўніцтвам і актывам гарадской арганізацыі ТБМ. На працягу некалькіх гадзінаў ішла зацікаўленая гаворка аб перспектывах развіцця ТБМ напярэдадні чарговага з'езду, аб апошніх ініцыятывах Таварыства, аб дзейнасці суполак ТБМ на Піншчыне. Было адзначана, што апошняя беларускамоўная школа ў Пінску не здолела ў гэтым годзе набраць першага беларускага класа, а ў падрыхтоўчых класах большасці пінскіх школ беларуская мова навогул, як прадмет, адсутнічае. Мясцовае кабельнае тэлебачанне і газета "Пинская правда" працуюць толькі на рускай мове, а мясцовыя ўлады гэтаму патураюць.

Аднак работа сяброў пінскай арганізацыі ТБМ па змаганню за захаванне ў гэтым старажытным горадзе беларушчыны не спыняецца. Актывізаваўся збор подпісаў за адкрыццё БНУ, праводзяцца віктарыны і конкурсы, распаўсюджваецца беларуская літаратура і газета ТБМ "Наша слова".

*Наш карэспандэнт.*

## "У гэтым свеце ўсякае бывае"



Нягледзячы на наш цяжкі час надараецца і прыемнае. У пісьменніка і сябра рэдкалегіі газеты "Наша слова" Язэпа Палубяткі з Мастоў прыемнае нават паўтараецца. Па выніках конкурсу "У гэтым свеце ўсякае бывае" які праводзіў летась часопіс "Вожык", ён прызнаны пераможцам. Гэты часопіс на працягу ўжо 10 гадоў змяшчае на сваіх старонках яго творы. Дарэчы, у 1995 годзе Язэп Палубятка таксама быў прызнаны пераможцам гэтага конкурсу.

Язэп Палубятка – сталы празаік. Чытач меў магчымасць пазнаёміцца з яго апавяданнямі ў часопісах "Першацвет", "Родная прырода", "Свіцязь", "Алеся", "Вясёлка" ды іншыя. У "Маладосці" быў змешчаны часопісны варыянт сатырычнай аповесці "Вялікая жнівеньская...".

Неўзабаве ў часопісе "Крыніца" была надрукавана аповесць "Вайсковае евангелле", дзе распавядалася пра станаўленне нацыянальнай свядомасці маладога чалавека. Гэты твор быў прызнаны лепшым у друку па выніках 1997 года. Зараз у незалежнай газеце "Мастоўскі веснік" друкуецца яго аповесць "Правільнае рашэнне, таварыш прэзідэнт", а часопіс "Крыніца" падрыхтаваў да друку яго новую аповесць "Прыгоды Мармулкі" і яна пабачыць свет у бягучым годзе.

Творы Язэпа Палубятка, яркія, запамінальныя, нічым не падобныя да твораў іншых аўтараў. У хуткім часе газета "Наша слова" пазнаёміць сваіх чытачоў з яго сатырычнай аповесцю "Дуралесіца".

**Станіслаў Суднік.**

Беларуская мова-
ТБМ
наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Раіса Жук-Грышкевіч (Канада) | 100 канад. дал. |
| 2. | Андрэй Волчак (Польшча) | 20 DM |
| 3. | Ганчарова Валянціна (Менск) | 500 |
| 4. | Кафедра сучаснай бел. мовы БДУ (Менск) | 5.000 |
| 5. | Петруковіч Васіль (Менск) | 2.200 |
| 6. | Шкірманкоў Фэлікс (Слаўгарад) | 1.000 |
| 7. | Палсцюк Валеры (Менск) | 3.000 |
| 8. | Лябік Наталля (Менск) | 2.000 |
| 9. | Дзямід Мікола (Менск) | 5.000 |
| 10. | Казлоўская І. (Менск) | 500 |
| 11. | Клімаў Ігар (Менск) | 1.000 |
| 12. | Дабрадзеі з Менску | 1.000 |
| 13. | Аркадзь Галай (Менск) | 1.000 |
| 14. | Аляхновіч Рагнеда (Менск) | 1.000 |
| 15. | Рагацкі Піліп (Менск) | 350 |
| 16. | Нікалюк Алена (Менск) | 10.000 |
| 17. | Надзея Барт-Юрэвіч (Германія) | 100 DM |





# Украінскі часопіс піша пра беларускія справы

Заснаваны некалькі гадоў таму Кіева-Магілянскай Акадэміяй навукова-публіцыстычны часопіс-дайджэст "Урок украінськоі" сёлета тройчы звярнуўся ў сваіх публікацыях да праблем беларускага моўнага жыцця.

У змешчанай у 7-м нумары часопіса нататцы пра міжнародную навуковую канферэнцыю "Дзяржаўнасць украінскай мовы і моўны досвед краін свету" (адбылася ў Кіеве ў траўні) прыведзены два сказы пра беларускую сітуацыю, якія былі прапанаваны ў пастанову канферэнцыі, аднак не былі ўключаны ў канчатковы тэкст. Калі падчас прыняцця рэзалюцыі ў зале вынікла дыскусія накont "беларускай праблемы", то стомленыя ўдзельнікі канферэнцыі, як гэта нярэдка бывае, схіліліся да самага простага рашэння і пастанавілі не далучаць беларускі фрагмент у выніковы дакумент. Такое развязанне праблемы задаволіла, відавочна, не ўсіх, што і відаць на прыкладзе ўзнаўлення беларускай часткі пастановы ў прысвечанай канферэнцыі кароткай хранікальнай нататцы.

У 8-м нумары "Урока украінськоі" змешчана публікацыя "Дурысвет. Аўтапартрэт Аляксандра Лукашэнкі ў цытатах". У рэдакцыйнай урэзцы гаворыцца пра беларускі рэферэндум 1995 года, які быў праведзены "са шматлікімі парушэннямі нават тамтэйшага (беларускага – С.З.) заканадаўства". У публікацыі прыводзяцца выказванні Аляксандра Лукашэнкі пра беларускую мову на сесіі Гомельскага гарсавета, падчас сустрэчы з Б.Ельцыным 23 лютага 1995 года, на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і на нарадзе з навукоўцамі і выкладчыкамі-грамадазнаўцамі ў Нацыянальнай Акадэміі навук. У заўвагах да публікацыі прыведзены цытаты з артыкулаў Г. Дурава, П. Сцяцко, Н. Гілевіча і Г. Бураўкіна, змешчаных у зборніку "Аняменне". Публікацыю суправаджае малюнак, на якім паказаны чалавек, падобны да Аляксандра Лукашэнкі.

Нарэшце, у 9-м нумары часопіса пад загалоўкам "Засцярога й нам" пад крыптанімам Г. Р. надрукавана рэцэнзія на зборнік "Аняменне".

Застаецца дадаць, што "Урок украінськоі" з'яўляецца вельмі аўтарытэтным выданнем, на старонках якога друкуюцца лепшыя украінскія мовазнаўцы, публіцысты, настаўнікі. Так, у названых нумарах часопіса апублікаваны артыкулы акадэміка НАН Украіны Івана Дзюбы, культуролага Мыколы Рабчука, старшыні Украінскай асацыяцыі беларусістаў Грыгорыя Піўтарака, Аляксандра Панамарова (аўтара нядаўняга дапаможніка для ВНУ "Культура слова"), галоўнага рэдактара часопіса Сэргія Грэчанюка, дацэнта Кіеўскага Нацыянальнага ўніверсітэта Ларысы Масэнкі (аўтаркі кнігі "Мова і палітыка"), дактароў філалагічных навук Світланы Ярмоленкіі Анатолія Пагрыбнага, дырэктара Інстытута украінскай мовы Васыля Німчука і многіх іншых. Агляду часопіса "Урок украінськоі" "Наша слова" плануе неўзабаве прысвяціць адмысловую публікацыю.

*Алесь Лазарчык.*

## УВАГА!

***У красавіку 2001 года, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адчыніцца выстава "Свет вачыма беларускіх дзяцей XX стагоддзя".***

***На выставе будуць прадстаўлены творы дзяцей XX стагоддзя ад першых яго гадоў і да апошніх.***

***Музей і Аргкамітэт выставы звяртаюцца да ўсіх, у каго захаваліся свае дзіцячыя малюнкі, малюнкі бацькоў, дзядоў, прадзедаў, родных і заёмных, калі яны былі дзецьмі ці падлеткамі (да 17 гадоў уключна). Дасылайце ці прынясіце гэтыя творы ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Захаванасць Вашых малюнкаў гарантуем.***



***Да твораў просім прыкласці кароткую біяграфію і фотаздымак аўтара (пажадана часу стварэння малюнкаў).***

***Творы прыносьце ці дасылайце да 1 лютага 2001 года, у цвёрдым канверце, не складваючы, на адрас: 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 12. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.***

***Тэлефоны для даведак: 206-33-17, 227-06-33, 227-30-06.***

***Чакаем Вашых твораў.***

***З павагай.*** *Аргкамітэт.*

## "Воўк і раз, два, тры..."

Прэм'еру музычнай казкі "Воўк і раз, два,тры..." паводле сюжэту Ніны Мацяш паставіў тэатр "Лялька" ў Віцебску. Ажыццявіў пастаноўку галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Віктар Клімчук, лялькі і сцэнаграфію падрыхтавала Ганна Сідарава, музыку стварыў Алег Залётнеў.

**На здымку:** сцэна з казкі.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**



# КАЛЯНДАР СТУДЗЕНЯ

## "Юнацтву" – 20 гадоў

Зайздросны багаж гэтага выдавецтва. Нават яшчэ ў гады існавання СССР было выпушчана амаль паўтары тысячы назваў кніг. Іх агульны тыраж склаў болей за 120 мільёнаў паасобнікаў. Паліграфічная прадукцыя гэтага прадпрыемства распаўсюджвалася ў 110 краінах свету. Яно забяспечвала наш попыт на беларускую дзіцячую кнігу. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці мы і зараз маем магчымасць набыць кнігі гэтага выдавецтва.

## Выдавецтву "Беларусь" – 80

У 1921 годзе ў Менску было заснавана дзяржаўнае выдавецтва БССР. У гады вайны працавала ў Маскве. З 1963 года мае назву "Беларусь". Шырокая палітра кнігавыдання: грамадска-палітычная, вытворча-тэхнічная, медыцынская, музычная літаратура.

## Белінфарм – 80 гадоў

Заснавана ў 1921 годзе як Беларускае бюро расійскага тэлеграфнага агенства (БелРОСТА). У 1924 годзе рэарганізавана ў беларускае аддзяленне саюзнага камерцыйнага агенства (БЕЛКТА) у 1931 годзе ператворана ў інфармацыйны орган пры СНК БССР (БЕЛТА). З 1971 года існавала як саюзнарэспубліканскі інфармацыйны орган па правах Дзяржаўнага камітэта.

Зараз – гэта Беларускае інфармацыйнае агенства (Белінфарм).

## Мулявіну – 60

12 студзеня Уладзіміру Мулявіну, артысту, кампазітару, кіраўніку ансамбля "Песняры" спаўняецца 60 гадоў. З яго імем цесна звязана папулярызацыя беларускай песні ў сучаснай эстраднай апрацоўцы.



**1974 год. Вакальна-інструментальны ансамбль "Песняры".** *Аматарскі здымак.*

160 гадоў з дня нараджэння Ігната Здановіча (1841 – 1864 г.), удзельніка паўстання 1863-1864 г.г. у Літве, Беларусі. Ён быў адным з бліжэйшых памочнікаў Кастуся Каліноўскага па кіраўніцтву паўстанненем, касірам Віленскага паўстанцкага цэнтра і паўстанцкім начальнікам горада. Арыштаваны і пакараны ў Вільні.

210 гадоў з дня нараджэння Генрыка Дэмбінскага (1791 – 1864 г.), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830-31 г.г. у Польшчы і на Беларусі. Нарадзіўся ў горадзе Кельцы. Меў вайсковае званне генерал. Улетку 1831 года корпус, які ён узначальваў дзейнічаў у Белавежскай пушчы, гэта выклікала новы ўздым паўстання ў Навагрудскім павеце, пасля паразы эміграваў і ў 1840 годзе актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху ў Аўстра-Венгрыі.

240 гадоў з дня нараджэння Якуба Ясінскага (1761 – 1794) удзельніка паўстання 1794 года ў Польшчы і Літве. Нарадзіўся ў Вэглеве. Навучаўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе. У час паўстання ўзначальваў часовы рэвалюцыйны ўрад Літвы і Заходняй Беларусі – Найвышэйшую літоўскую раду. Быў камандуючым войскамі ў арміі Касцюшкі. Удзельнік ваенных аперацый пад Мірам, Пінскам, Берасцем. Загінуў у баі пад Варшавай. Якуб Ясінскі вядомы таксама як аўтар жартлівых эратычных вершаў, ідылій, песень, паэм, баек, а таксама заклікаў да барацьбы.

350 гадоў з дня нараджэння Капіевіча (Капіеўскага) Ільі (1651 – 1714), кнігавыдаўца, асветніка і паэта.

Ільля Капіевіч нарадзіўся на Мсціслаўшчыне. Адукацыю набываў у Слуцкай Кальвінісцкай школе. У свой час не знайшоў паразумення з езуітамі, зведаў з іх боку ганенні ды вымушаны быў выехаць у Галандыю. У Амстэрдаме выдаваў кнігі для Расіі, вызначыўся як прыхільнік рэформаў Пятра І. Ён склаў і выдаў два дзесяткі кнігаў. Сярод іх падручнікі, слоўнікі, навучальныя дапаможнікі. У 1702 годзе выдаў першы друкаваны каляндар. Ён таксама аўтар першай на расейскай мове карты зорнага неба.

460 гадоў з дня нараджэння Іпацыя Пацея (1541 – 1613), пісьменніка – палеміста, дзяржаўнага палітычнага і царкоўнага дзеяча. Адам Львовіч (свецкае імя) нарадзіўся на Берасцейшчыне. Навучаўся ў Кракаўскай акадэміі. У свой час быў каралеўскім сакратаром, берасцейскім земскім суддзём, сенатарам Рэчы Паспалітай, берасцейскім кашталянам. У 1593 годзе ўзначаліў Уладзіміра-Берасцейскую епіскапскую кафедру. З 1599 года кіеўскі уніяцкі мітрапаліт. Ігнаці Пацей з'яўляецца адным з арганізатараў Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Ён стварыў у яе абарону палемічныя творы. Аўтар вялікай колькасці прамоў і павучанняў.

*Язэп Палубятка.*

Філія Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Branch of the National State Humanitarian Liceum after Jakub Kolas.

**Старшыні Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сп. Трусаву А.**
**вул. Румянцава, д. 13,**
**г. Менск, 220005**

**Аб падтрымцы прапановы па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэту**

Калектыў работнікаў і навучэнцаў нашай навучальнай установы выступае ў падтрымку прапановы па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэту. (Збор подпісаў быў праведзены раней).

Дадаткова накіроўваем подпісы 34 навучэнцаў, якія паступілі ў філію НДГЛ імя Я. Коласа ў гэтым навучальным годзе і якія не падпісваліся пад гэтым патрабаваннем раней.

**Дырэктар філіі НДГЛ імя Я. Коласа** **Т. В. Масьлюкоў.**

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку рэдакцыі газеты "Наша Ніва" за публікацыю бланка для збору подпісаў за Беларускі нацыянальны універсітэт. Даводзім да нашых сяброў ў"Нашай Ніве", што на іхніх бланках ужо паступіла некалькі соцень подпісаў за БНУ.**

## Статыстыка збору подпісаў за БНУ За перыяд з 1.11. па 1.12.2000 г.

| | |
|---|---|
| 1. Менск | 399 |
| 2. Менская вобл. | 155 |
| У тым ліку: | |
| Слуцкі раён | 41 |
| Мядзель | 87 |
| Мядзельскі раён | 27 |
| 3. Горадня | 125 |
| 4. Гарадзенская вобл. | 80 |
| У тым ліку: | |
| Смаргонь | 20 |
| Смаргонскі раён | 60 |
| 5. Віцебск | 310 |
| 6. Віцебская вобл. | 108 |
| У тым ліку: | |
| Шаркаўшчынскі р-н | 67 |
| Полацк | 6 |
| Іншыя населеныя пункты Віцебшчыны | 35 |
| 7. Магілёўская вобл. | 83 |
| У тым ліку: | |
| Асіповіцкі раён | 83 |
| 8. Гомельская вобл. | 54 |
| У тым ліку: | |
| Светлагорск | 34 |
| Светлагорскі раён | 20 |
| 9. Берасцейская вобл. | 42 |
| У тым ліку: | |
| Пінск | 42 |
| | 1356 |

На 1 снежня 35282 подпісаў

## Статыстыка збору подпісаў за БНУ За перыяд з 1.12. па 31.12.2000 г.

| | |
|---|---|
| 1. Менск | 293 |
| 2. Менская вобл. | 176 |
| У тым ліку: | |
| Слуцкі раён | 5 |
| Мядзельскі раён | 171 |
| 3. Горадня | 64 |
| 4. Гарадзенская вобл. | 124 |
| У тым ліку: | |
| Слонім | 20 |
| Смаргонь | 98 |
| 5. Віцебск | 238 |
| 6. Віцебская вобл. | 248 |
| У тым ліку: | |
| Мёры | 158 |
| Полацк | 80 |
| Дубровенскі раён | 10 |
| 7. Магілёў | 2 |
| 8. Магілёўская вобл. | 38 |
| У тым ліку: | |
| Бабруйск | 22 |
| Асіповічы | 16 |
| 9. Гомель | 296 |
| 10. Гомельская вобл. | 71 |
| У тым ліку: | |
| Жыткавічы | 71 |
| 11. Берасцейская вобл. | 318 |
| У тым ліку: | |
| Пінск | 312 |
| Івацэвічы | 1 |
| Ганцавічы | 5 |
| | 1868 |

На 1 студзеня 2001 г. – 37150 подпісаў

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску.

Для гэтага патрабуем стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта.

| № | Прозвішча, імя , імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Старшыні грамадскага, аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны" Трусаву А.А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Рэктарат Белдзяржуніверсітэта ўважліва разгледзеў падрыхтаваную ТБМ "Канцэпцыю пераводу БДУ на выкладанне ўсіх прадметаў на дзяржаўнай беларускай мове". Мы разумеем і падзяляем Вашу пазіцыю аб неабходнасці стварэння ўсіх умоў для рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян на атрыманне адукацыі на беларускай мове, а таксама аб пашырэнні яе выкарыстання ў грамадстве ў цэлым.

Менавіта таму для ўжывання беларускай мовы ў адукацыйным і навуковым працэсах у БДУ на сёння не існуе аніякіх перашкод, больш за тое – кожны факультэт, кожная кафедра, выкладчыкі і студэнты маюць права самі вызначаць мову навучання, але пры ўмове прафесійнай дакладнасці ў гэтым кампаненце (асабліва добрыя напрацоўкі тут маюць амаль усе гуманітарныя факультэты, што і зразумела).

Між тым БДУ, як навуковая і адукацыйная ўстанова, як асяродак культуры, дэмакратычных прынцыпаў у міжасабовых стасунках, адносінах у грамадстве і ва ўзаемадзеянні з органамі дзяржаўнага кіравання заўсёды зыходзіў і зыходзіць цяпер з таго пункту гледжання, што мова выкладання не павінна дамінаваць над сутнасцю самаго прадмета выкладання, не быць сродкам ціску на асобу навучэнца і настаўніка (вядома, якія дыспрапорцыі, на жаль, склаліся сёння ў выкарыстанні, ужыванні беларускай і рускай моў прадстаўнікамі амаль усіх сацыяльных катэгорый нашага грамадства). У гэтай сувязі Вы ў сваіх прапановах правільна ўлічваеце асабісты фактар, аб чым сведчыць апошні радок "Канцэпцыі..." – пераход на беларускамоўнае навучанне ажыццяўляецца "па жаданні студэнтаў"!

Аднак ідэя Нацыянальнага інстытута ў складзе універсітэта, якая была абмеркавана пад час Вашага наведвання БДУ, не знайшла, на жаль, дакладнага ўвасаблення ў "Канцэпцыі... " Вы не вызначылі магчымыя асаблівасці гэтага інстытута (новыя факультэты, спецыяльнасці, спецыялізацыі), акрамя як тое, што "усе прадметы выкладаюцца па-беларуску". Гэтыя высновы зразумелыя і дыскусій тут непатрэбна. Але ж стварэнне НІ, зыходзячы з Вашай прапановы, патрабуе штучнага адрыву карэнных спецыяльнасцяў ад існых факультэтаў (гістарычнага, міжнародных адносін, Міжнароднага гуманітарнага інстытута), што не можа быць прынята для далейшага абмеркавання. Вы не знайшлі магчымым прадставіць хаця б прыкладныя вучэбныя планы і праграмы па тых кірунках падрыхтоўкі спецыялістаў, якія павінны пашырыць дыяпазон універсітэцкай адукацыі. У гэтай сувязі, як было дамоўлена, Вы абяцалі прапанаваць для разгляду кандыдатуры выкладчыкаў на штатныя пасады для вядзення навучальнага працэсу па роднай мове.

Маюць рацыю Вашы прапановы аб пашырэнні практыкі існавання на факультэтах беларускамоўнай і рускамоўнай плыняў, больш за тое, мы лічым, што гэта найбольш натуральны кірунак дзейнасці БДУ па рэалізацыі імкненняў і здольнасцяў студэнтаў. Нельга не пагадзіцца і з тым, што ва універсітэце павінна існаваць сістэма заахвочвання выкладчыкаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на роднай мове. Але гэта не знайшло адлюстравання ў "Канцэпцыі...".

Такім чынам, мы лічым, што прадстаўленая "Канцэпцыя... " з'яўляецца прадметам для далейшага абмеркавання, але не можа быць прынята універсітэтам ў прадстаўленым варыянце, тым больш пры штучным, нічым не абгрунтаваным размеркаванні этапаў, разлічаных на 5 гадоў (чаму не 7-10, альбо 2-3 ?!). Такі "пераход", зыходзячы з логікі Вашай "Канцэпцыі... ", парушыць тое ж канстытуцыйнае права грамадзян на "атрыманне адукацыі на сваёй мове".

Рэктарат падцвярджае сваю зацікаўленасць ў тым, каб ва ўніверсітэце дзейнічала суполка ТБМ з наданнем ёй пэўных арганізацыйных функцый у справе пашырэння выкладання вучэбных дысцыплін на беларускай мове.

**Рэктар Белдзяржуніверсітэта прафесар А.У. Казулін.**

Уладзімір Казбярук

# "Мая паэзія – мой абавязак..."

## Слова пра Алеся Барскага

Алесь Барскі – літаратурны псеўданім Аляксандра Баршчэўскага – беларускага паэта, публіцыста, аўтара каларытных нарысаў, прафесара Варшаўскага універсітэта, вучонага, які жыве і працуе ў Варшаве, а паходзіць з Беласточчыны. За заслугі ў развіцці навукі, літаратуры яму было прысвоена званне ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ён з'явіўся адным з арганізатараў шырокамаштабнага беларускага грамадска-культурнага руху на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд. І каб ацаніць належным чынам значэнне таго працэсу, нам неабходна ўсвядоміць сабе, што там адбылося. А для гэтага давядзецца звярнуцца да гісторыі – і далёкай, і блізкай.

Мы добра ведаем, што на працягу стагоддзяў беларушчына выпраменьвала з Вільні. Тут нарадзілася першая друкаваная кніга на землях усходніх славян, пабачыў свет "Статут Вялікага Княства Літоўскага". Пасля летаргічнага сну пад канец XVII і ў XVIII стагоддзі, калі беларушчына практычна знаходзілася ў стадыі агоніі, у першай палавіне і ў сярэдзіне XIX ст. не дзенебудзь, а ў Вільні пачала адраджацца мастацкая літаратура на беларускай мове. Яна ж падрыхтавала зараджэнне беларускай нацыянальнай свядомасці. З Вільняй звязана жыццё і творчасць Францішка Багушэвіча, "бацькі беларускага Адраджэння", і яго паслядоўнікаў у пачатку XX ст., у нашаніўскі перыяд. І толькі ў час першай сусветнай вайны Менск ператвараўся ў галоўны цэнтр беларускай культуры, літаратуры, навукі, мастацтва, палітычнага і дзяржаўна-грамадскага жыцця. А ў міжваенны перыяд, у часы так званай Другой Рэчы Паспалітай, Вільня заставалася культурнай сталіцай усёй Заходняй Беларусі. І толькі Літоўская ССР пасля вайны на працягу кароткага гістарычнага часу расправілася з культурнай беларушчынай на той тэрыторыі, якую калісьці Сталін, забраўшы ў Беларусі, падарыў Літве – яна ажыццявіла тое, чаго не далі рады ні рускае самадзяржаўе, ні даверасnёўская Польшча.

Што ж датычыць Беластока, то адным з самастойных цэнтраў беларускай культуры ён упершыню ў гісторыі стаў толькі пасля другой сусветнай вайны, пры жыцці нашага пакалення. Зусім невыпадкова ў календары на 1988 год Сакрат Яновіч піша пра "адсутнасць жывой тутэйшай вялікай беларускай нацыянальнай традыцыі за нашымі плячыма...", гэта значыць, за плячыма тых, хто на Беласточчыне, як сказаў бы Янка Купала, "на запусцелым дзірване" ўзнімаў "скібіну слова" – роднага, беларускага.

Дзякуючы небывала самаахвярным намаганням групы энтузіястаў-першапраходцаў, у 1956 г. у Беластоку ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства, пачала выходзіць газета "Ніва", праз два гады зарадзілася літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", з'явіліся ў свет зборнікі мастацкіх твораў – калектыўныя і індывідуальныя, - беларускія календары, склікаліся семінары, якія станавіліся формай літаратурнай вучобы. Ды яшчэ беларуская мова трапіла ў пачатковыя і сярэднія школы, выкладчыкаў для якіх рыхтавала і рыхтуе кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Настане час – і пра арганізатараў культурна-асветнага руху і літаратурнага жыцця на Беласточчыне – і пра Георгія Ваўкавыцкага (Юрку Зубрыцкага), і пра Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага), і Сакрата Яновіча, і Віктара Шведа, і Яна Чыквіна ды і пра іншых – будуць пісаць манаграфіі, удумлівыя даследаванні.

Адно з найбольш ганаровых месц у ліку першапраходцаў займае Аляксандр Баршчэўскі – і як паэт, і як навуковец высокай кваліфікацыі, і як пераканаPы нястомны прапагандыст беларускай культуры і літаратуры, і як педагог, і як праўдашукальнік, які ніколі не аглядваўся на моду, на савецкія цэнзурныя забароны, не падладжваўся дзеля кар'еры пад чыесьці густы. Так было і тады, калі ён з'яўляўся выкладчыкам кафедры філалогіі Варшаўскага універсітэта з 1956 г., і тады, калі стаў узначальваць яе з 1975 г. Кіруе ён гэтай кафедрай і па сённяшні дзень. Прытым заваяваў там такі аўтарытэт, што ў свой час нядобразычлівцы ніяк не далі рады пазбавіць яго гэтай пасады.

Нарадзіўся Аляксандр Баршчэўскі 2 лістапада 1930 г. у вёсцы Бандары на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. Калі б захавалася тая даваенная Польшча, то маладому Шурыку – так звалі яго ў сям'і і на вёсцы – было б суджана лёс не менш здольных аднавяскоўцаў старэйшага пакалення, якія сваёй начытанасцю і ведамі па гісторыі або літаратуры маглі здзівіць любога спецыяліста, але самі не мелі ніякага права на адукацыю і звязанае з ёю месца ў грамадстве.

Новая, пасляваенная Польшча, якую сёння модна стала бэсціць там на ўсе лады, адкрыла юнаку дарогу ў шырокі свет – да найвышэйшай адукацыі, да працы на ніве культуры, навукі, да паэтычнай творчасці. Ён закончыў Лодзенскі універсітэт і з цягам часу дасягнуў звання прафесара – найвышэйшага ў Польшчы звання ў навуцы і педагогіцы.

Для звычайнага чытача і шырокай грамадскасці Аляксандр Баршчэўскі – гэта Алесь Барскі, найбольш вядомы як паэт, аўтар зборнікаў "Белавежскія матывы", "Жнівень слоў", "Мой бераг", "Блізкасць далёкага", "Лірычны пульс". Сустрэчы з чытачом чакае яшчэ адзін паэтычны зборнік у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў Менску.

З першых крокаў абапіраючыся на традыцыйныя формы паэтычнай творчасці, Алесь Барскі шукае самабытныя, адметныя вобразы, каб раскрыць унутраны свет юнака, што любуецца красою і багаццем прыроды, краявідамі з-над рэчкі Нарвы, Белавежскай пушчай або ў якога абуджаецца светлае пачуццё кахання. Звярнуць увагу на традыцыйныя формы неабходна таму, што ў польскай – і не толькі ў польскай – паэзіі месца традыцыйных вершаў, напоўненых пачуццём і багатым зместам, займаюць практыкаванні, пазбаўленыя паэтычнай гармоніі, складу, ладу і элементарнага сэнсу. Не адмаўляючыся ад наватарскіх пошукаў, Алесь Барскі тым не менш пераканана сцвярджае:

Сцяну не дзіраваць лобам,  
Старыя формы гаснуць.  
Пішы, як каму да спадобы,  
Стылем старым ці сучасным!

Форм новых не перайначыш –  
Ды дзіўна стала на свеце,  
Што на месцы рыфмы звінячай –  
Сыплем нягодныя смецці.

***("...Мода дыктуе стылі")***

У паэзіі Алеся Барскага высвечваецца сыноўняя адданасць роднай зямлі. бацькоўскай хаце, сямейным традыцыям, тым вытокам, якія ўзгадвалі яго, дапамаглі стаць сумленным чалавекам, цаніць працу і розум так, як яны таго заслугоўваюць. І мы верым аўтару, калі ён піша:

Трывогу нашу я ў сэрцы:  
Зрабіў для Айчыны так мала,  
І сёння гатоў памерці,  
Каб толькі яна існавала!

***("... Мне сніцца малінавы звон")***

Гэтыя радкі можна ўзяць эпіграфам да ўсёй творчасці паэта.

На працягу многіх гадоў Алесь Барскі публікаваў цікавыя і каштоўныя ўспаміны, нарысы, уражанні ад падарожжаў па свеце, публіцыстычныя артыкулы. У 1992 г. у Менску з'явілася ў друку кніжка "З пабачанага і перажытага. Абразкі, артыкулы, дарожныя нататкі". Яна каштоўная тым, што ў ёй аўтар падае шматлікія канкрэтныя звесткі пра рэальных людзей – у прыватнасці, пра жыхароў сваёй роднай вёскі Бандары, пра іх лёс у пераломныя перыяды гісторыі, у час гістарычных катаклізмаў другой сусветнай вайны, калі так часта мяняліся ўлады ды яшчэ то ў адзін, то ў другі бок пракочвалася небывала разбуральная ваенная машына, якая столькі гора прыносіла людзям, бездапаможным перад усімі яе жахамі.

У зборніку найбольш каштоўнае тое, што аўтар перадаў рэальныя жыццёвыя звесткі для сучаснікаў і захаваў надзейную памяць для нашчадкаў не толькі пра канкрэтных людзей, але і пра тую эпоху сацыяльных і палітычных катаклізмаў, якая ўжо даўно адышла ў гісторыю і пасля якой кардынальна змяніўся лёс вёскі і селяніна. Можна пашкадаваць толькі, што многія не менш каларытныя з'явы і падзеі з жыцця Бандароў ды і суседніх вёсак не трапілі на старонкі ўспамінаў. На большай колькасці канкрэтных прыкладаў можна было б больш поўна паказаць духоўнае багацце простых сялян. А можа мы яшчэ дачакаемся сустрэчы з імі, хоць бы з такімі жыхарамі Бандароў, як Андрэй Баршчэўскі ("Культурны"), Язэп Казбярук, як яго брат Дзміцер (удзельнік бітвы пад Монтэ Касіна), а можа нават і Піліп Карэтка, які трапіў сюды пазней, а ў свой час – тады, калі адбываўся Першы Усебеларускі кангрэс, служыў у войску ў Менску?

Паэтычныя і празаічныя набыткі Алеся Барскага часта закрываюць перад намі яго здзяйсненні ў іншых галінах творчай дзейнасці. А ён як педагог напісаў для сваіх студэнтаў і апублікаваў падручнікі па фальклору і па гісторыі беларускай літаратуры перыяду Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага. Пісаў ён у перыёдыцы і пра літаратуру новага часу. Асаблівая каштоўнасць і самых публікацый і яго лекцый у тым, што ён характарызаваў творчасць беларускіх пісьменнікаў паводле іх рэальных заслуг, а не так, як патрабавалі ў свой час савецкія ідэалагічныя ведамствы і падпарадкаваная ім цэнзура. І нават у 1966 г., калі ён пісаў дысертацыю пра творчасць Якуба Коласа 1906 – 1930 гадоў, то ён прынцыпова адмаўляўся ад неапраўданых і падчас фальсіфікатарскіх ацэнак або вывадаў, узаконеных у працах савецкіх даследчыкаў. У аўтарэферацэ дысертацыі ён адзначыў: "Я супрацьпастаўляюся некаторым сучасным даследчыкам, якія намагаюцца пашырыць межы сацыялістычнага рэалізму на творчасць Коласа першых год савецкай улады, а нават на творы дакастрычніцкія...". Так Аляксандр Баршчэўскі, як дысертант падыходзіў да разгляду творчасці пісьменніка 1906 – 1915 гадоў. Свае прынцыповыя пазіцыі ён неаднаразова і недвухсэнсоўна засведчыў у аўтарэферацэ. Ён, у прыватнасці, пісаў далей: "... Я супрацьпастаўлююся крытыкам трыццатых гадоў, што прыпісвалі "Нашай ніве" і звязаным з ёю пісьменнікам (Коласу, Купале, Багдановічу) рэакцыйныя і нацыяналістычныя ідэі; палемізую таксама і з тымі сучаснымі даследчыкамі, якія ў пасляваенны перыяд падтрымліваюць тэзіс аб рэакцыйнасці "Нашай нівы"...".

Алесь Барскі ў сваіх успамінах паведамляе, што калісьці да яго на практычныя заняткі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім універсітэце трапілі візіцёры з Беларусі Лаўрэнці Абэцэдарскі і Міхась Ларчанка. Тут Абэцэдарскі з жахам даведаўся, што ідэйна недасведчаны выкладчык падае сваім студэнтам звесткі пра Алеся Гаруна, Казіміра Сваяка, Францішка Аляхновіча. Ён імкнуўся забіць трывогу ў ЦК Кампартыі Беларусі, каб дамагчыся адпаведных ідэйных і арганізацыйных вывадаў. Але за маладога выкладчыка заступіўся Міхась Ларчанка, і справа скончылася мірна.

Выключна каштоўнай з'яўляецца перакладчыцкая дзейнасць Алеся Барскага, пра якую – на фоне яго здзяйсненняў у галіне паэтычнай творчасці – у нас мала гавораць. А ён пераклаў – прытым выдатна – на польскую мову шматлікія казкі і паэтычныя творы. Да польскага чытача, дзякуючы яму, трапілі вялікія зборнікі казак "Д'яблава скрыпка" (казкі са збору Міхала Федароўскага "Люд беларускі..."), "Невычэрпаны збан" (казкі зямлі Менскай, Смаленскай, Магілёўскай, Гарадзенскай і Палесся), "Зачараваныя барвы стэпу" (казкі украінскага народа), "Асілкі чарадзеі" (рускія казкі). А яшчэ ж Алесь Барскі выдаў у сваім перакладзе зборнікі твораў Васіля Віткі "Тосі, тосі лапкі", Аляксея Пысіна "У сонейку", Валянціны Лукшы "Лета круглы год", паэму Янкі Купалы "Яна і я" і друкаваў пераклады іншых твораў Янкі Купалы, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Лідзіі Арабей. Варта падкрэсліць, што Алесь Барскі ўмее дакладна захаваць і перадаць змест, сэнс і дух арыгінала. Пераклаў ён і польскія творы на беларускую мову. Гэтым самым ён садзейнічаў беларуска-польскаму літаратурнаму і культурнаму ўзаемазбліжэнню і ўзаемаразуменню.

Гэтай высакароднай мэце служылі таксама шматлікія міжнародныя навуковыя канферэнцыі, у арганізацыі або правядзенні якіх ён прымаў самы непасрэдны і дзейсны ўдзел. Тут хочацца нагадаць міжнародны сімпозіюм у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Варшаве і на Беласточчыне ў 1982 годзе. А яшчэ і міжнародную канферэнцыю ў Варшаве, прысвечаную 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны (1990 г.). Удзел у ёй прынялі шматлікія скарыназнаўцы з Польшчы, ЗША, Балгарыі, ГДР, а таксама з Гомеля, Горадні, Масквы, Ленінграда, Рыгі. З аднаго Менска ўдзельнічала ў ёй 7 чалавек.

Прафесар Аляксандр Баршчэўскі застаецца нястомным прапагандыстам беларушчыны, паказвае добры прыклад асаблівa беражлівых адносін да культурнай спадчыны народа, да набыткаў народнай творчасці. Ён добра вядомы і жаданы госць у любым закутку Беласточчыны, дзе жыве беларускае слова. Свае вынашаныя думкі і цвёрдыя перакананні ён даносіць да слухачоў, да ўдзельнікаў розных мерапрыемстваў і ў Беларусі, і ў ЗША, і ў Англіі. Але колькі б ён ні вандраваў, дзе б ён ні быў, ён зберагае найбольш шчырыя пачуцці да родных Бандароў з рэчкай Нарвай, з сялянскімі палеткамі і блізкім лесам, з людзьмі, у асяроддзі якіх вырас, набіраўся жыццёвай мудрасці і станавіўся сапраўдным чалавекам.

**Алесь Барскі**

### На Новы, 1995 год

*Беларусь, спыні сон, разбудзіся, світанне,*  
*І выходзь на прастор, на шырокія гоні.*  
*Сонца промнем цалуе туманнае ранне*  
*І залоціць дубоў белавежскіх кароны.*

*І ўсё тут тваё, і ўсё тут чакае*  
*Клапатлівай рукі і руплівай задумы.*  
*Беларусе, змяні ад асноў лёсы краю*  
*І да песень ідзі ад адвечнага суму.*

*І ты станься свабодным*  
*між вольных народаў*  
*І душу напаі ў гулказвонных крыніцах,*  
*Хай спяваюць званы*  
*гімны вечнай свабоды,*  
*Хай надзея імчыць*  
*на хрыбтах бліскавіцаў.*

*Дык у шыр, дык у высь,*  
*у прастор і ў сонца*  
*Хай растуць парасткі беларускай надзеі,*  
*І сканае бясследна*  
*чарнобыльскі стронцый,*  
*І навек родны край*  
*добрым шчасцем квітнее.*

*Беларусь, працягні рукі дружбы народам*  
*І наперад ідзі да шчаслівае долі,*  
*Хай палошчуць сцягі ідэалы свабоды*  
*І хай воля тут стане сапраўднаю воляй.*

Ісідор Бас

# Пецярбург — Тыфліс

## З жыцця Янкі Лучыны

***Помняць яго нашчадкі.***

***Як вядома, 2001 год прапанавана абвесціць годам Янкі Лучыны. Да нядаўняга часу імя яго многім было невядома. Дзякуючы прагрэсіўным пісьменнікам, даследчыкам Янка Лучына пачынае займаць сваё пачэснае месца ў нашай літаратуры.***

***Адным з тых, хто вяртаў нам яго імя лічыцца пісьменнік, літаратуразнаўца Ісідар Бас (Ізраіль Самуйлавіч Бас). Яго кніга "Літаратуразнаўчыя эцюды" з'явіліся для мяне маленькай крынічкай ведаў пра некаторых беларускіх творцаў, пра невядомыя іх старонкі жыцця, у тым ліку і Янкі Лучыны. Мы павінны ўшаноўваць не толькі прыйшоўшых з небыцця паэтаў і пісьменнікаў, але і не забываць тых, хто сваімі намаганнямі вяртаў імёны знакамітых сыноў Бацькаўшчыны.***

***Ісідар Бас у пенсійным узросце дзесь у 1978 годзе выехаў у ЗША. Лёс яго застаўся невядомым. Добра б было, каб хто-небудзь з амерыканскай дыяспары пацікавіўся аб ім, ды і даслаў нам некалькі слоў пра яго, паведаміўшы яму, калі ён сярод нас, яго родным, што помняць яго тут на Беларусі і ўдзячны яму.***

***Думаю, што надрукаваны яго адзін з эцюдаў будзе не толькі ўшанаваны памяці Янкі Лучыны, але і свайго роду ўдзячнасцю аўтару літаратурнай замалёўкі.***

***Мікола Лавіцкі.***

Белыя плямы... У гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры іх дужа многа. Колькі яшчэ невядомага, нявысветленага, нават загадкавага! Узяць хоць бы Янку Лучыну – аднаго з пачынальнікаў крытычнага рэалізму ў нашай літаратуры. Ягоную біяграфію можна вызначыць хіба толькі пункцірам. Так, шэсць, а можа, і болей гадоў знаходзіўся ён у Пецярбурзе, але і сёння нам мала што вядома пра гэты перыяд жыцця будучага аўтара паэтычнага зборніка "Вязанка". Праўда, асобныя матэрыялы, якія ўдалося адшукаць у Дзяржаўным гістарычным архіве Ленінградскай вобласці (ДГАЛ), даюць магчымасць хоць у нейкай ступені ўявіць сабе Янку Лучыну – студэнта Тэхналагічнага інстытута.

Нашаму літаратуразнаўству ўжо вядома, што летам 1870 года Іван Люцыянавіч закончыў Менскую класічную гімназію. Трэба было вучыцца далей, і Люцыян Юр'евіч і Антаніна Мікалаеўна – бацькі паэта – не адзін дзень думалі, куды б паехаць сыну Івану, бо ніводнай вышэйшай навучальнай установы ў Менску, як і ў іншых гарадах Беларусі, у той час не было. Быў выбраны сталічны Пецярбургскі універсітэт. Пройдзе крыху больш за дзесяць гадоў, і тады ж, у Пецярбургскі універсітэт, падасць свае дакументы другі сын Неслухоўскіх – Генрык. Але пра гэта мы раскажам пазней.

Уступныя экзамены Янка Лучына вытрымаў паспяхова і быў залічаны студэнтам матэматычнага аддзялення. Асабістая справа "Аб залічэнні ў студэнты Івана Люцыянавіча Неслухоўскага" (пачата 31 жніўня 1870 года) у свой час была знойдзена ў архіве Сцяпанам Майхровічам, і тыя дакументы, якія там меліся, уведзены даследчыкам у навуковы ўжытак. Сярод іх і прашэнне Лучыны на імя рэктара універсітэта: "Жадаючыя паступіць у лік слухачоў Тэхналагічнага інстытута, прашу пакорна Ваша Правасхадзіцельства аб дазволе выдаць мне мае паперы, што знаходзяцца ва універсітэце".

Такім чынам, не прайшло і года, як Іван Люцыянавіч вырашыў пакінуць універсітэт. Ён падаў дакументы ў Тэхналагічны інстытут, які знаходзіўся таксама ў Пецярбурзе. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла тая акалічнасць, што якраз у той год у інстытуце адбылася рэарганізацыя. Быў уведзены пяцігадовы тэрмін навучання (замест чатырох гадоў), пашырана праграма выкладання, уведзены новыя прадметы. Створаны новыя кафедры і г.д. Краіна адчувала ўсё большую патрэбу ў кваліфікаваных інжынерах для прамысловасці і транспарту. Іх і рыхтаваў Тэхналагічны інстытут. Калі ў інстытут прыйшоў Лучына, прыём студэнтаў быў павялічаны да 460 чалавек - лічба на той час не малая. Паводле сведчання пісьменніка У. Караленкі, які паступіў у "Тэхналагічку" ў тым жа 1871 годзе, уся гэтая маса юнакоў яшчэ да 15 жніўня напоўніла калідоры, канцылярыі, чарцёжныя. Увогуле, зазначае Караленка ў сваёй кнізе "Гісторыя майго сучасніка", цэнтр цяжару студэнцкага жыцця прыкметна пераносіўся з Васільеўскага вострава, дзе знаходзіўся універсітэт, на Тэхналагічны інстытут. Архіў гэтага інстытута, асабліва тое, што мае дачыненне да студэнтаў, добра захаваўся ў ДГА Ленінградскай вобласці. Дакументы кожнага студэнта яшчэ з даўніх часоў пакладзены ў асобную папку. Значыцца, недзе павінна ляжаць і асабістая справа студэнта-тэхнолага Івана Люцыянавіча Неслухоўскага. Але ў архіве яе не аказалася. Куды ж маглі падзецца дакументы Лучыны?

Адказ на гэтае пытанне я знайшоў у гоўсгаі і пажоўклай ад даўнасці часу папцы, якая мае назву: "Дакументы вольных слухачоў Тэхналагічнага інстытута, што паступілі ў 1871 годзе". Вось што там было напісана: "Дакументы атрымаў назад 1877 года (верасня) 16 дня. Іван Неслухоўскі". Тут жа пералічвалася тое, што было яму вернута. 1. Пасведчанне аб прыналежнасці да дваранства Менскай губерні за № 2418. 2. Метрычная выпіска за № 322. 3. Пасведчанне С.-Пецярбургскага універсітэта за № 2410. 4. Атэстат Менскай класічнай гімназіі за № 545. 5.Пасведчанне аб беднасці за № 381. 6. Пасведчанне аб службе на Варонежскай чыгунцы.

Самае цікавае – апошняе пасведчанне ды яшчэ тое, што было выдадзена універсітэтам. Астатнія вядомыя нашаму літаратуразнаўству. Што рабіў Лучыны на Варонежскай чыгунцы? Ці быў ён пасланы туды, ці паехаў сам? І колькі часу ён там знаходзіўся? Усё гэта пакуль што застаецца невядомым, і можна толькі выказаць некаторыя здагадкі.

На першым годзе навучання Янка Лучына вывучаў такія прадметы: вышэйшую матэматыку, элементарную механіку, неарганічную хімію, начартальную геаметрыю, замежныя мовы (англійскую, нямецкую, французскую) і іншыя. Захаваліся адзнакі, якія ён атрымаў на пераводных экзаменах з першага на другі курс. Аналітычная геаметрыя – 4, фізіка – 4, начартальная геаметрыя – 4, хімія – 4, чарчэнне – 5, статыка - 5. На другім – чацвёртым курсах Лучына вывучаў спецыяльныя прадметы: тэорыю і пабудову паравых катлоў, тэорыю і пабудову паравозаў, будаўнічую механіку, металургію.

Тэхналагічны інстытут размяшчаўся ў вялікім трохпавярховым будынку, які быў відзён здалёку, бо сцены яго былі пафарбаваны ў чырвона-жоўты колер. Шырокім фасадам ён выходзіў на скрыжаванне дзвюх вуліц. На фатаграфіях, што зберагліся, мае прыстойны выгляд. У адрозненне ад іншых вышэйшых навучальных устаноў таго часу Тэхналагічны інстытут падпарадкоўваўся не міністэрству народнай асветы, а міністэрству фінансаў. На працу студэнтаў-тэхнолагаў накіроўваў дэпартамент мануфактуры гэтага міністэрства. Недзе ў паперах дэпартамента павінна быць адзначана, куды быў накіраваны працаваць і Янка Лучына.

З самага пачатку свайго заснавання Тэхналагічны інстытут камплектаваўся пераважна з людзей "чорнай косці". Туды ішлі вучыцца дзеці мяшчан, бедных чыноўнікаў, збяднелага дваранства. Студэнтаў-тэхнолагаў У. Караленка называў "рабочымі інтэлігентамі" альбо "інтэлігентнымі рабочымі". У інстытуце панаваў дух вальнадумства, незадавальнення тагачаснымі парадкамі ў Расіі. Часта распаўсюджваліся рэвалюцыйныя ўлёткі, наладжваліся студэнцкія сходкі. Караленка расказвае ў "Гісторыі майго сучасніка", як ён аднойчы ўбачыў на сцяне лісток, каля якога стаяў шчыльны натоўп студэнтаў. Між іх імкнуўся працiснуцца нехта з акадэмічнай адміністрацыі "з двума педалямі" (шпікамі). "Я таксама прабіўся да сцяны, - успамінае пісьменнік, - і ўбачыў верш, азагалоўлены, здаецца, "На бой". Ён заклікаў да актыўнага пратэсту супроць дэспатызму:

*И если деспот мощною рукою*
*Тебя за горло схватит, наконец,*
*И ты не в силах будешь кликнуть "К бою!",*
*То молча плюнь ему в лицо, боец.*

Другі студэнт-тэхнолаг тых гадоў (яго ўспаміны прыгадваюцца ў кнізе "Сто гадоў. Тэхналагічны інстытут імя Ленінградскага Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў", 1928, т.1) сведчыць, што часта можна было бачыць, як на перапынку паміж лекцыямі студэнты горача спрачаліся паміж сабою і, забыўшыся пра лекцыю, тут жа наладжвалі сходку. Шмат разоў яны прасілі прафесара фізікі Ленца не пачынаць лекцыі, пакуль сходка не закончыцца.

Адбываліся і агульнастудэнцкія сходкі. Праходзілі яны звычайна альбо ў чытальнай зале, альбо ў чарцёжнай. Творы К. Маркса, Ф. Ласаля, П. Лаўрова, М. Бакуніна хадзілі па руках.

Гісторык Тэхналагічнага інстытута адзначае, што шмат студэнтаў удзельнічала ў дэманстрацыі ля Казанскага сабора ў 1876 годзе, на якой з прамовай выступіў Г.В.Пляханаў. Дзесяць тэхнолагаў былі арыштаваны і высланы паводле прыгавору суда ў Сібір.

Тое, што адбывалася ў інстытуце, не магло не ўплываць на маладога Лучыну, які, даршчы, толькі па дакументах лічыўся дваранінам, а ва ўсім астатнім нічым не адрозніваўся ад студэнтаў-разначынцаў. Матэрыяльна яму жылося цяжка, бо на самым пачатку другога года навучання ён падаў прашэнне:

*Яго правасхадзіцельству*
*Пану дырэктару С.-Пецярбургскага*
*тэхналагічнага інстытута.*
*Вольнага слухача другога курса*
*механічнага аддзялення*
*Івана Неслухоўскага.*

*ПРАШЭННЕ*

***Валодаючы нязначнымі сродкамі, я не магу ўносіць устаноўленую плату за слуханне лекцый, а таму прашу Ваша правасхадзіцельства аб залічэнні мяне ў лік бясплатных слухачоў інстытута.***

***Пры гэтым прашэнні прыкладаю даведку пра беднасць, выдадзеную мне ад Менскага прадвадзіцеля дваранства.***

***Іван Неслухоўскі.***

***С.П.Б.1872 г. 16 верасня.***

Такое ж прашэнне Лучына падаваў на першым курсе універсітэта, прыклаўшы тую самую даведку пра беднасць. Грошай, якія прысылалі з Менска, не хапала, каб плаціць за наведванне лекцый (50 рублёў на год), за кватэру, за яду. А трэба было яшчэ купляць нешта з адзення, кнігі. Жыццё ў сталіцы каштавала не танна. Паводле ўспамінаў студэнта сямідзесятых гадоў Н.Барысава, за пакой "з ацяпленнем, самаварам" плацілі да пятнаццаці рублёў за месяц. Харчаваліся звычайна ў сталоўцы, якая знаходзілася паблізу інстытута на рагу Загараднай і Падольскай вуліц, але найчасцей хадзілі ў другую сталоўку, што на Малым царскасельскім праспекце, бо тут у нядзелю і ў чацвер да супу падавалі кавалак мяснога пірага, і студэнты, каб сэканоміць грошы, адмаўляліся ад другой стравы. Аднак для большай часткі тэхнолагаў і такія выдаткі былі не па кішэні. Яны харчаваліся "на хаду ў каўбасных", дзе можна было атрымаць сасіску з хлебам і гарчыцай.

А вось што гаворыць пра жыццё студэнтаў-тэхнолагаў У. Караленка. "Кампанія наша, - расказвае Караленка, - жыла ў беднасці. Непрыкметна, паступова голад выяўляўся знясіленнем: ногі нылі, твар бляднеў, рух станавіўся часам млявым, на лекцыях увага прытуплялася, над мазгамі быццам навісала нейкая павець... Вяртаючыся пасля галоднага дня з чарцёжнай ці з Публічнай бібліятэкі, я марыў ужо толькі пра нашыя каўбасы з Клінскага праспекта... Па сутнасці, гэта была павольная смерць ад голаду, толькі расцягнутая на доўгі час".

"Формы не было. Касцюмы былі самыя разнастайныя, але пераважалі высокія боты і шэрыя альбо сінія блузы з папругамі... Агульны выгляд гэтага студэнцкага натоўпу быў дэмакратычны. Многа доўгіх шавялюр, акуляраў, пледаў. Над усёй гэтай стракатасцю твараў, фігур, касцюмаў вырысоўваўся як быццам агульны тып, і я з радасцю лавіў у ім дзіўна знаёмыя рысы... Моцны і грубаваты заводскі рабочы, з інтэлігентным тварам і "пячаткаю думкі".

Так ці прыкладна так жыў і Янка Лучына. Толькі вельмі нямногія студэнты былі параўнальна забяспечаны. Усе астатнія перабіваліся "з хлеба на квас".

Засталося невядомым, ці перавялі Лучыну ў "бясплатныя слухачы". У архіве захаваўся толькі "Спіс слухачоў Тэхналагічнага інстытута, якія жадаюць вызваліцца ад платы за навучанне на падставе пераводных экзаменаў"[2]. Шэсцьдзесят восьмым у спісе ідзе Іван Неслухоўскі. Калі яму адмовілі, дык не выключана магчымасць, што з-за матэрыяльных абставін ён узяў гадавы водпуск. Наводзіць на гэтую думку адна акалічнасць. У інстытут Лучына паступіў у 1871 годзе, і закончыць яго павінен быў праз пяць гадоў, гэта значыць у 1876 годзе (так цяпер і пішуць нашыя літаратуразнаўцы: гл.БелСЭ,т.6). На самой жа справе з інстытуцкіх сцен Лучына выйшаў на год пазней, пра гэта сведчыць і кніжка "Пяцідзесяцігадовы юбілей С.-Пецярбургскага практычнага тэхналагічнага інстытута" (выдадзена ў 1879 годзе), дзе сярод студэнтаў, што закончылі механічнае аддзяленне, названа і прозвішча Івана Неслухоўскага, а таксама архіўныя "Звесткі пра паходжанне, мясціны і званні тых, хто закончыў поўны курс навук у Тэхналагічным інстытуце ў 1877 годзе". Тут пра Лучыну паведамляецца, што ў інстытут ён паступіў у 1871 годзе, нарадзіўся ў ліпені 1851 года, веравызвання каталіцкага, паходзіць з дваран Менскай губерні, гімназічную адукацыю атрымаў у Менскай губерні і што яму выдадзена пасведчанне на права пражывання:

***БІЛЕТ***

***Закончыўшы ў 1877 годзе курс навучання ў С.-Пецярбургскім практычным тэхналагічным інстытуце, Неслухоўскі Іван Люцыянавіч з ступенню інжынера-тэхнолага, які мае на тое дыплом і карыстаецца правамі, выкладзенымі ў 32 і 33 артыкулах Найвышэйша зацверджаных 2 лістапада 1876 года змен і палажэння аб інстытуце, апублікаваным у Зборы Узаконенняў і распараджэннем Урада, надрукаваныя пры ўрадавым Сенаце ад 28 снежня 1876 года за № 112-м, мае права пражываць ва ўсіх гарадах і сёлах Расійскай імперыі.***

***С.-Пецярбург, верасня 16 дня, 1877 года.***

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

# БЕЗНАЗОЎНАЕ, РОДНАЕ, ДАРАГОЕ, ЛІЦЬВІНСКАЕ...

І чаго яны лётаюць усе такія злыя і раздражнёныя, у той час, як мне так спакойна і хораша, як можа быць спакойна і хораша маці, што носіць пад сэрцам такую доўгачаканую, такую жаданую дачушку! Кажуць імя загадзя няможна даваць дзіцяці, як і пялёнкі купляць. А я вось купляла загадзя, бо дзе пасля схопіш што? Толькі на сябе можна спадзявацца. А імя давала па надвор'ю, чуйна прыслухоўваючыся да парадаў уласнага сэрца ды асяроддзя. І. Здаецца, усім дзецям дагадзіла. Хіба Мікола буркне калі, што імя не падабаецца, калі ўжо ў школе пачынаюць яго валтузіць забіякі. Але ён у мяне, дзякаваць Богу, хлопчык дужы – адаб'ецца сам. Зрэшты, як мая мама кажа: імя не красіць чалавека. І гэта праўда. Галоўнае, каб нутро здаровае было.

А можа яны, гэтыя невукі-цемрашалы, разлічваюць затрымаць роды паспелага плада? Ат, не буду я і грашыць, бо корпацца ў смецці няма ні сэнсу, ні часу. Праўда, я ведаю, што гэтыя шарачкі-баязліўцы, якія водзяцца на сметніках, больш небяспечныя для маёй дачушкі, чым нават тыя і рады, што насмелую забіваюць немаўлятак. Але гэтага ведання мне і дастаткова. Хату будучая маці мусіць утрымліваць у чысціні, не кажучы ўжо пра Ліцьвінскі Пасад.

"Адкуль тая твая Літва ўзялася?" – зноў чую раздражнёныя галасы недаверкаў. А я сваіх дзяцей хвалю за разумныя пытанні, а на іхныя наравы імкнуся не зважаць. Ведама, дзеці яшчэ. Вунь Міколка аднаго разу папытаўся ў мяне: "Мама, адкуль ты ведаеш, што мы Літвою завёмся ды не Беларуссю?" Гэта ён цяпер ужо, як падрос трохі пачаў разбэшчвацца казённым выхаваннем, вымаўляе: "Беларусь". А раней-то ён казаў: "Бералусь". Ну так, ян Пятроўскі як у ваду глядзеў, прадбачыўшы майго Міколку ды яговыя разумныя пытанні: "Толькі малыя дзеці кажуць нам чыстую праўду". А дарослыя дзядзькі і цёткі ўсё імкнуцца зрабіць нашых дзяцей гэткімі ж правільнымі, як яны самі. Вось раптам падалося ім, што мой Міколка няправільна гукі вымаўляе і загадалі мне напісаць заяву, каб завяла яго на "дефектологический пункт". Ну я і напісала, што не супраць таго, каб майго сына вадзілі на дэфекталагічны пункт. І цікава было назіраць, як дзяцей "дефектологических мам" павалаклі на выпраўленне, а майго Міколку не зачапілі. Так ён і ходзіць няправільны сярод правільных.

А на Міколкава пытаньне пра Літву я адказала, што гэта ўсе ведаюць, толькі баяцца сказаць уголас. Зусім, як у Андэрсанавай казцы пра голага караля. І вось тут я падыйшла проста да самага жытняга засеку з адборным насенным зернем. Стаю ў замілаванні, бясільная адвесці пагляд ад чароўных зярняткаў, што залатым дажджом сыплюцца з маіх жаночых рук... Не, пакуль што не на зямлю, бо яна яшчэ мёрзлая... Але ўжо хутка Вясна... Толькі хто ж будзе сеяць? Гаспадар зусім слабы ўжо, а я, хоць і добра ведаю кошт таго насення, сама сеяць не навучаная змалку... Бачыць-бачыла шмат разоў як сеюць, а сама вось не сеяла ні разу...

"Ці падобная акцыя змагання можа быць датарнавана на Бацькаўшчыне да беларускае рэчаіснасці? Так, пад умовай спаўнення двух няўхільных прадумоўнаў, якія цесна вяжуцца з сабой:

1. Беларускі народ знаходзіцца ў вялікай патрэбе прабуджанага чалавека, як і кіраўніка, і правадыра, што адпавядаў бы ўсім вымаганням гэтага скамплікаванага псіхалагічна-духовага змагання, чалавека, які б нічога не баяўся апрача грэху і нічога не хацеў апрача Бога.

2. Сам народ у сваёй нейкай значнай частцы мусіць быць на належным узроўні духовым, каб меў у сабе дастаткова сілы і праўдзівую сведамасць працягнуць за сабою напэўных ...

У адказ на голас скептыкаў мы можам адказаць, што няма нічога на свеце сталым. Мы жывём у часе вялікіх зменаў. Тое, што сягоння выдаецца немагчымым, можа заўтра аказацца як вялікая перспектыва для лепшых магчымасцяў".

Так, гэтыя насенныя словы з засекаў Яна Пятроўскага не раз ужо выводзілі мяне на шлях, дзе ляжыць нашае незасеяннае да гэтага часу ніва. То рушым туды ўсёй грамадой зараз, памятаючы наказ Настаўніка, што "зямлю атрымаюць простыя людзі, бо яны з'яўляюцца дзяцьмі Бога". Гэта я ўсё прыводжу словы Яна Пятроўскага з ягонай кнігі "Лепшыя думкі чалавека". І кніжачка-то просценькая, на прынтары выдадзеная, і мова ў яго нейкая, не такая, і стыль пісьма нейкі гагасветны, не наш... Гэтак фанабэрыліся надзіманы, гэдак з бояззю касавурыліся недаверкі, гэдак смяяліся з бацькавай галізны хамы... Але, дзякаваць Богу, былі адзінкі, якія бралі з маіх рук зробленыя мной ксеракопіі Ягоных кнігаў і тулілі іх да сэрца. І гэта жывіла маю надзею, што адродзіцца яшчэ, адтане зямля нашая Ліцьвінская.

А бацька ўжо і папраўдзе зусім стары стаў, нядужы. Пазалетась яшчэ прыслаў мне, як звычайна Каляднае віншаванне з напаўсцёртымі літарамі. Пісаў, што "было шмат працы і многа шкоды, каб не сказаць зласлівасці. Ахвяраю сталіся дзве пішучыя электрычныя машынкі і ... "Гонда". Але сведамасць прадпрынятага і супакой ніколі не пакідалі мяне..." Затое летась Каляднага віншавання не атрымала, і я ўжо пачынала думаць, што нітачка абарвалася, бо нідзе не знаходзіла ніякіх згадак пра Яго. Ну што ж, раней ці пазней гэта павінна было здарыцца. Значыць мне трэба гэты цяжар узваліць на свае плечы, бо анідзе ж, анікога ж ... запалі – не трэсне... Яшчэ ў 96-м годзе Ён звяртаўся да мяне з сакрамэнтальнай просьбай: знайсці яму жанчыну-памочніцу ў працы, бо ягоная "жонка адыйшла ў вечнасць некалькі гадоў таму. Астаўся я адзін, а працы, як кажуць, па вушы... але я маю ўжо дзевяноста і два гады, праца над слоўнікам затрымліваецца..." Такая жанчына знайшлася, гэта Валянціна Лапцэвіч. Мы тэлефанавалі яму, але пачулі кароткае: "Цяпер не час". І вось сёлета тая ж Валянціна Лапцэвіч ды не я атрымала (!!!) на гэты раз рукапісны ліст ад Яго. Мабыць ён блытае даты, пішучы пра смерць "бадай што ў вадным тыдні гаспадыні Алісы Пятроўскай і нашага сына, доктара Юрыя Пятроўскага", бо ў кнізе "Лепшыя думкі чалавека" за 92 год ёсць невялічкі абразок пад назвай "Прыгожае жыццё – прыгожая смерць", дзе апісаны апошнія хвіліны ягонай жонкі. Дагледзелі тут знаўцы, што не ўсюды мяккія знакі, пастаўлены, на што я зусім не звярнула ўвагі – мне важны быў сам факт ліста! Мяне ані не засмуціла і ягонае паведамленне, што "лістом гэтым першы раз афіцыяльна паведамляецца, што арганізацыя Джона і Алісы Пятроўскіх "Беларускі Адукацыйны Фонд у Гэнсвілле з прычын, ад нас незалежных, з днём 16 траўня 1998 году афіцыйна спыніў сваё існаванне. Але нашая дзейнасць як людзей працягваецца неафіцыйна далей". А колькі ж можна цягнуць са старых бацькоў іхнім дарослым дзецям?! Няўжо ж мы такія зломкі, што і кроку не зробім самастойна? Якая ганьба, што мы, ссівелыя, да гэтага часу робім у пялёнкі!

... А я ўдзячна Яму за просценькую кніжыцу "Тарас Сайка", якую Ён выправіў мне бясплатна, як наогул і ўсё, што ён рабіў бескарысна для нашага народу. Там распавядаецца гісторыя простага чалавека, які шукаў Праўды для свайго народу. Шукаў так упарта, самаахвярна, шукаў усюды, куды б яго ні закідвала жыццё-доля. Тарас Сайка і Ян Пятроўскі з'яўляліся будаўнікамі жыцця. Ну і нам трэба будаваць сваё жыццё ды ісці далей з сваіх настаўнікаў. Проста, проста, проста. Бог не ёсць складанасць. Можна для пачатку навучыцца задаваць сабе разумныя пытанні. Як нашыя дзеці. Можа замест "Адкуль узялася Літва?" папытацца: "Што такое Літва?" Толькі я не буду адказваць на гэтае пытанне, бо адказ будзе ў кожнага свой, па рысцы ягонай сведамасці ў "келіху душы". А мо і зусім не будзе адказу... Хоць я шукала адказу на гэтае самой сабе зададзенае пытанне ў Валянціна Грыцкевіча, і ў Станіслава Судніка, і ў Івана Ласкова, у "Жамойцкім тупіку"... Але тупік ён і ёсць тупік. Урэшце кінула гэты марны занятак, як Леў Талстой кінуў універсітэт, і пачала думаць самастойна. Вось выкапала "шляхецкія паперы" ў Нацыянальным Гістарычным Архіве з 1762 году, дзе сцвярджаецца, што на Матусевічавым гербе некалі красаваўся Лебедзь. Ого! Мае продкі не аборай хлеб кроілі! Далей ідзем. Адам Міцкевіч казаў, што "на Літве называюць "ваколіцай" альбо "засценкам" "асаду шляхецкую". І з'ездзіла я да колішняга засценка Вострава-зямлі маіх дзядоў, як верніцы імкнуцца, парываюцца да Ерусаліма... А што я маю цяпер? Савецкі пашпарт краіны, якая ўжо не існуе, дзе напісана, што я быццам бы беларуска. Між тым ступае на нашу зямлю перапіс, як і 2000 год таму назад наступаў ён на Марыю з маленькім Хрыстом.. Вы сабе, панове, як хочаце, а ў мяне рука не падымаецца напісаць там, што я-беларуска, калі я ўсведамляю сябе Ліцьвінкай.

Чытаю Арыгена "Аб пачатках", напісанае прыблізна ў 228 - 229 г.г. "Пасля Арыгена пачала ілжывая вера хрысьціянства расці. Жах праймае перад відзежай рэлігійных забабонаў таго часу. Арыген хадзіў яшчэ па гарачых вуголлях старога свету. Ведаючы запаветы Езуса, ён хварэў, бачачы няўвагу натоўпу. Ведаючы таямніцы старажытных містэрый, ён хварэў, бачачы неразуменне Першакрыніцы. Ведаючы прастату Вучэння Езуса, ён хварэў, бачачы стварэнне цэркваў. Будучы апекуном ведаў, ён абураўся заняпадам ведаў сярод служыцельнікаў". Гэта сказана пра Арыгена ў Вучэнні Жывой Этыкі, і.. нітачка срэбная працягнулася да майго "Вострава" і да маіх твораў і апублікаваных, а збольшага-неапублікаваных, да часу схаваных... Не, панове, вы іх не схаваеце, бо яны разышліся ўжо па ўсёй маёй Літве... Між іншым там, у Арыгена, я вычытала такое: "пісанне прапаведуе, што Бог выбраў для сябе некаторы народ на зямлі і называе гэты народ шматлікімі імёнамі. Калі-небудзь гэты народ называецца Ізраілем, калі-небудзь--Якавым. Гэты народ быў падзелены Еравамам, сынам Неватавым, на дзве часткі, і дзесяць каленаў, падпарадкаваўшыхся яму, былі названыя Ізраілем: іншыя ж два, з якімі было і калена Левіна, і лінія, сыходзіўшыя з роду Давіда, былі названы Юдаю. А ўсе мейсцы, якімі валодаў гэты народ і якія атрымаў ён ад Бога, называліся Юдэяй. Сталіцай яе быў Ерусалім, сталіцай жа (метраполіяй) называецца як бы некаторая маці мноства гарадоў". І яшчэ: "Апроч таго шматлікія прароцтвы кажуць аб Ізраілі ды Юдэі, апавяшчаючы ім будучыню". Пасля ў Дзённіку для сябе занатавала ўражанне ад прачытанага: "Рагнеда ў нас была, адтуль пачаўся падзел нашага народу. Масковія і Літва. У Літве была Барбара. Вільня – наша сталіца".

Алена Рэрых – заснавальніца Вучэльні Жывой Этыкі, прадказвала, што Вучэнне пойдзе з Расеі і пойдзе яно ад жанчыны. Некалі ж я ў гарачай бойцы з "нашаўніцамі" кінула ім сваю здагадку: "Ці не нашая гэта зямелька?" Там жа, ад Арыгена, даведалася, што "Ізраіль значыць розум, які бачыць Бога", альбо "чалавек, які бачыць Бога". А пра тое, што Ева на іўрыце азначае жыццё, я адчувала, здаецца, з самога маленства. І вось магутнае духовае апірышча знайшла ў Арыгене – гэтага светача праўдзівага Вучэння Хрустуса, як велічае яго Алена Рэрых, адштурхоўваючыся ад якога я зразумела і што такое Літва і што такое Жанчына.

*Ганна Матусевіч.*
*Койданава.*

**P.S.** Мая Львовіч, Літвачка, як яна ўслед за Змітраком Бядулем называе сябе, (ёсць такія звесткі і ў Яна Пятроўскага, што так называлі сябе габрэі, рассеяныя па свеце, але дзяды якіх былі народжаныя на Літве) калі ёй, амаль невідушчай прачыталі мой рукапіс "8 верасня..." напісала Верш, які я ўспрыняла за Боскую Узнагароду. Мая Львовіч пыталася ў мяне пра сучасны ліцьвінскі рух. Вось я і выправіла ёй свой матар'ял, некалі замоўлены "Крыніцай" да так і пахаваны ў ейных спратах. Заадно надрукавала і для "Нашага слова". А што ж яны, "крынічнікі" ні сам ні гам ні другому не дам!

Хай людзі чытаюць.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 01. 2001.
Наклад 2900 асобнікаў. Замова № 2
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
***Кошт у розніцу:*** 55 руб.